



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

13 верасня 2019 года №37 (1272) 18+

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


# 17 верасня 1939

старонкі 17-19, 24

Графіка Ігара ПАЛЫНСКАГА.



ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



**Трансгендар з Маладзечна ажаніўся ў расійскай турме**

старонка 2

**Наш пазаштатны аўтар абараніла доктарскую дысертацыю ў іспанскім універсітэце ў Мадрыдзе**

старонка 5

**У Крэве рабілі фотаздымкі без фотакамеры**

старонка 8

**У Маладзечне рабочых засыпала грунтам. Двое загінулі, адзін – у бальніцы**

старонка 4

## Уладзімір Васількоў – больш не намеснік начальніка РАУС

МАЛАДЗЕЧНА



Пра гэта карэспандэнту паведамілі ў прэс-службе Маладзечанскага РАУС.

У бліжэйшыя дні прызначаць чалавека, які будзе выконваць абавязкі намесніка начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні.

Падпалкоўнік міліцыі **Уладзімір Васількоў** працаваў у міліцыі больш за два дзесяцігоддзі.

Днямі калегі ўрачыста правялі Уладзіміра Уладзіміравіча на заслужаны адпачынак.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Шукаюць тых, хто гатовы працаваць клоўнам у бальніцы

МАЛАДЗЕЧНА

Вы любіце ўсміхацца і смяяцца? Дарыць радасць іншым людзям? Проста так, каб на душы было цёпла і светла?

Маладзечанская арганізацыя «Бумеранг дабра» запускае праект «Бальнічны клоўн», які будзе працаваць на Маладзечаншчыне.

Удзельнічаць запрашаюць кожнага, у каго ёсць жаданне дарыць радасць тым, каму гэта трэба, і ўзамен бачыць іх шчаслівыя твары.

Усяму навучаць, усё раскажуць. Па пытаннях пішыце ў Instagram @katyasemagina, @okuratnik.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Ільянец прадставіць Беларусь на міжнародных спаборніцтвах лесарубаў

ВІЛЕЙКА

Гэта **Сяргей Гайчук** – жыхар Ільі, майстар Ільянскага лясніцтва.

Як паведамляюць у Вілейскім доследным лягсасе, іх супрацоўніка ўключылі ў склад нацыянальнай каманды Міністэрства лясной гаспадаркі, якая будзе прадстаўляць Беларусь на сусветных спаборніцтвах і адкрытых чэмпіянатах вальшчыкаў лесу.

Па словах намесніка дырэктара Вілейскага доследнага лягсаса **Таццяны Анішчык**, у каманду ўваходзяць пяць чалавек: чатыры дарослыя і адзін юніёр.

Сяргей ужо не раз выступаў на падобных спаборніцтвах.

Цяпер у складзе нацыянальнай каманды два прадстаўнікі Вілейшчыны – **Валеры Дуровіч** і Сяргей Гайчук.

– Канешне, гэта вельмі добрая навіна. Асабліва перад такімі важнымі для нас датамі – прафесійным святам і 80-годдзем Вілейскага доследнага лягсаса, – падсумавала Таццяна Анішчык.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Здымаюць фільм пра генацыд цыганоў

АШМЯНЫ

Ашмяншчыну наведала дэлегацыя з Германіі. Прадстаўнікі адукацыйнага цэнтра «За мір» рэалізуюць з «Беларускай цыганскай дыяспарай» праект «Забыты генацыд: ромы ў Беларусі 1941-1944».

У складзе дэлегацыі – аўтары і арганізатары праекта **Франк Брэндле** і **Герыт Цыглер**, намеснік аб'яднання «Беларуская цыганская дыяспара» **Артур Гоманаў**, журналісты і гісторыкі. Да рэалізацыі праекта таксама далучылася гістарычная майстэрня імя Леаніда Левіна з Мінска. Сумеснае нямецка-беларускае даследаванне праходзіць пры падтрымкі Міністэрства замежных спраў Германіі.

– Аб генацыдзе ромаў у Беларусі, які быў здзейснены нямецкімі акупантамі, мала што вядома, – расказвае Франк Брэндле. – Сем'і тых, хто выжыў, берагуць памяць пра генацыд да нашых дзён, але грамадства ў сваёй большасці іх не чуе – ні ў Германіі, ні ў Беларусі. Гістарычных даследаванняў практычна няма. Толькі нядаўна некаторыя даследчыкі і грамадскія аб'яднанні пачалі цікавіцца гэтай тэмай. Наш праект заклікаены падтрымаць гэтыя ініцыятывы і дапамагчы вyратаваць памяць аб жудаснай трагедыі.

Вынікам працы над праектам стане перасоўная выстава і відэафільм на рускай і нямецкай мовах, якія будуць экспанавацца як у Беларусі, так і ў Германіі. Выстава адкрыецца ў наступным годзе. Ужо вядома, што з ёй змогуць пазнаёміцца жыхары сталіцы, Бабруйска і Ашмянаў.

Матэрыял для выставы і фільма збіраецца па ўсёй Беларусі.

**Паводле osh.by.**



Назар Гулевіч з жонкай.

# Трансгендар з Маладзечна ажаніўся ў расійскай турме

**У маскоўскім СІЗА №6 адбылося першае вяселле трансгендара-знявoленага. Назар узяў шлюб са сваёй каханай Аленай.**

Алена ўспамінае гісторыю іх знаёмства. Гэта было 17 гадоў таму. Ёй было тады 33, а Назару – 21. Алена працавала касірам у кінатэатры ў маскоўскім гандлёвым цэнтры «Калужскі».

– У нас паміж касай і наведнікамі шкляныя перагародкі зверху і знізу, а паміж імі прасвет. І вось у гэту нішу ўпала ружа. Ружовага колеру. Я падняла вочы – гляджу, стаіць перада мной ці то дзяўчына, ці то хлопец (апранаўся як хлапчук), – распавядае «МК» Алена.

Назар (тады яшчэ ён быў афіцыйна Настай), як аказалася, працаваў у гэтым жа гандлёвым цэнтры ў адной з фірмаў. Ён запрыкмеціў дзяўчыну.

**У той вечар, калі Алена скончыла працаваць, яны сустрэліся і пагаварылі.**

Спачатку размаўлялі як дзве сяброўкі. Але ўжо на трэцяй сустрэчы Назар сказаў, што адчувае сябе мужчынам і ў яго ёсць дакладны план змяніць пол. А Алена неўзабаве зразумела, што кахае гэтага чалавека.

Трэцяга верасня Назар і Алена пажаніліся.

**Назар Гулевіч нарадзіўся ў Маладзечне. У мінулым жыцці яго звалі Насцяй. Яшчэ ў школе ён зразумеў, што ідэнтыфікуе сябе з іншым полам.**

Назар Гулевіч апынуўся ў маскоўскім СІЗА па абвінавачанні ў махлярстве. Мужчыну па дакументах і жанчыну па фізіялогіі спачатку прызначылі ў мужчынскі ізалятар. Нейкі час Назар правёў у бальніцы «Матросcкай цішыні», а потым яго ўсё-ткі перавялі ў жаночы ізалятар, спаслаўшыся на тое, што ў першую чаргу ў разлік трэба браць фізіялогію.

**Настасся УТКІНА.**

## На Валожыншчыну завезлі больш за 150 дзікіх коней з Нідэрландаў

**У пачатку жніўня ў заказнік «Налібоцкі», на Валожыншчыну, прывезлі першых 50 дзікіх коней з Нідэрландаў.**

Даставілі іх сюды ў спецыяльным фургоне, абсталяваным вентыляцыяй, паілкамі і кармушкамі.

**Яшчэ 101 асобіну даставілі дзвюма партыямі.**

Вядома, што дзікія коні ў Налібоцкай пушчы жылі яшчэ ў 15 стагоддзі.

Можна сказаць, што жывёлы вярнуліся ў межы свайго спрадвечнага арэала.

– Нідэрландскі запаведнік перанаселены гэтымі конямі – не хапае пашы, таму для жывёл шукаюць дом па ўсім свеце. У нас жа ў пушчы дастаткова плошчаў для вольнага выпасу – каля 350 гектараў лугоў. Галандскія калегі прапанавалі бясплатна падзяліцца з намі дзікімі конямі, узялі на сябе большасць выдаткаў па перавозцы.

**У Беларусі коні ўжо паспелі прынесці прыплод – нядаўна нарадзілася жарабя, – сказаў дырэктар Рэспубліканскага ландшафтнага заказніка «Налібоцкі» Васіль Гуркоў.**

Дарэчы, гэта парода называецца конік. Яе вывелі ў канцы 1930-х гадоў на тэрыторыі Белавежскай пушчы. Аднак у час Другой сусветнай жывёла трапіла ў Еўропу.

Цяпер коней утрымліваюць на каранціне. Іх выпусцяць на волю ў канцы кастрычніка. А ў далейшым яны дапамогуць захаваць палі заказніка ад зарастання хмызнякамі.

**Паводле Мінаблвыканкама.**


Фота poland-ukraine.com.ua.

Вакансію з заробкам вышэй за 1000 рублёў можна атрымаць амаль у кожным з раёнаў рэгіёна.

# Якія вакансіі прапануюць у рэгіёне

**Кім можна ўладкавацца і колькі зарабляць у розных раёнах рэгіёна, мы паглядзелі ў агульнарэспубліканскім банку вакансій па прапановах за верасень.**

### Маладзечна

Самая высокааплатная прапанова – для машыніста цеплавоза, якому абяцаюць 1200 заробку. Загадчыку вытворчасці з досведам работы ад трох год на кіруючай пасадзе прапануюць ад 1000 рублёў. Будучага галоўнага ветэрынарнага доктара ў сельскагаспадарчым прадпрыемстве таксама чакае 1000 рублёў.

**Па 800 рублёў прапануюць таваразнаўцу з досведам ад года і памочніку машыніста цеплавоза.**

Ад 700 рублёў зарабіць кіроўца пагрузчыка, слесар па аглядзе і рамонце лакаматываў, зваршчык на машынах кантактнай зваркі, аператар ўпакоўчанай машыны, кантралёр-касір, муляр, кіроўца аўтамабіля, галоўны энергетык сельгаспрадпрыемства, ветэрынарны доктар.

Большасць актуальных вакансій абяцаюць заробак ад 330 рублёў. Столькі будуць зарабляць выхавальнік садка, школьны інжынер-праграміст, сакратар каледжа, дворнік, повары ў садках і школах, электраманцёры.

### Вілейка

Максімальныя па заробках вакансіі ў банку прадугледжваюць аплату працы ў 800 рублёў для трактарыста і кіроўцы аўтамабіля.

Ад 500 да 700 рублёў прапануюць кіраўніку сельскагаспадарчага прадпрыемства, галоўнаму энергетыку сельгаспрадпрыемства, галоўнаму інжынеру, галоўнаму заатэхніку, галоўнаму бухгалтару, трактарысту-машыністу, слесару, аператару грануляатара, галоўнаму інжынеру, ветэрынарнаму доктару, сталяру, кіроўцу пагрузчыка, брыгадзіру, сартавальніку, трактарысту, юрысконсульту, спецыялісту па ахове працы, інжынеру-энергетыку.

330 рублёў прапануюць юрысконсульту, дворніку, санітару, школьнаму кухоннаму рабочаму. 345 рублёў абяцаюць будучаму дырэктару Ільянскага дзяржаўнага каледжа.

### Валожын

Найбольшы заробак з прапанаваных абяцаюць загрузчыку сыравіны – ад 800 рублёў. 700 рублёў заплацяць галоўнаму бухгалтару, інжынеру па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні і кантралёру-касіру.

Ад 300 да 350 рублёў атрымаюць кухонны рабочы, інструктар па працоўнай тэрапіі і кравец.

### Мядзел

Максімальны з прапанаваных заробкаў прапануюць метадысту ў дзіцячым цэнтры – ад 1100 рублёў. Ад 1000 рублёў зарабіць інжынер па арганізацыі, эксплуатацыі і рамонце будынкаў. 900 рублёў зарабіць зубны фельчар. Ад 700 – медыцынская сястра.

Ад 330 рублёў атрымае прадавец, кіраўнік фізічнага выхавання.

Па 400 рублёў зарплата афіцыянта, кіроўцы аўтамабіля, токара, электрагазазваршчыка.

### Смаргонь

На Смаргоншчыне найбольшы заробак прапануюць машыністу тралёвачнай машыны – ад 1200 рублёў. Па 1000 рублёў прапануюць тынкоўшчыку, трактарысту, абліцоўшчыку-плітачніку, муляру, галоўнаму заатэхніку.

**900 рублёў атрымае машыніст бульдозера, кіроўца аўтамабіля, начальнік вытворчасці, начальнік аддзела тэхнічнага кантролю.**

Ад 330 рублёў зарабіць бібліятэкар, бухгалтар, музычны кіраўнік, сацыяльны педагог, фармацэўт, качагар кацельні, падсобны рабочы, вартаўнік.

### Ашмяны

Начальнік вытворчасці і галоўны інжынер зарабяць найбольш за ўсіх – ад 1260 рублёў. Ад 1000 рублёў атрымае офіс-менеджар прыватнага прадпрыемства. Ад 900 рублёў – грузчык, кіроўца аўтамабіля.

800 рублёў зарабіць абвальшчык мяса, кіроўца аўтамабіля, інжынер службы сродкаў дыспетчарскага і тэхналагічнага кіравання прадпрыемстваў сетак, інжынер.

**Ад 330 рублёў зарабяць балетмайстар, бібліёграф, галоўны бухгалтар, галоўны захавальнік фондаў, загадчык клуба, інспектар па кадрах.**

### Астравец

Самы высокі з прапанаваных заробкаў на Астравеччыне чакае інжынера па вентыляцыі – ад 1920 рублёў. Ад 1800 зарабіць электразваршчык ручной зваркі, электрагазазваршчык, мантажнік вонкавых трубаправодаў.

Ад 330 рублёў прапануюць дзяжурнаму па зале, інжынеру-механіку, фармацэўту-рэцэптару, ліфцёру, паштальёну, прыбіральшчыку памяшканняў.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.09 | 12.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1161 | **2.0845** |
| Еўра | 2.3271 | **2.2996** |
| Злоты, 10 | 5.3770 | **5.3001** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1845 | **3.1880** |
| Грыўня, 100 | 8.3698 | **8.3496** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **4.09** | **11.09** |
| Еўра | 2.3050/2.3370 | **2.2800/2.3150** |
| Долар ЗША | 2.1070/2.1250 | **2.0700/2.0930** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **4.09** | **11.09** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,98 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,50** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **–** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Лісічкі, 500 мл | 1,50 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 0,75 | **0,90** |
| Перац, 1 кг | 1,20 | **0,75** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **4,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,30 | **2,20** |
| Брусніцы, 500 мл | 1,50 | **2,00** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Грушы, 1 кг | 1,80 | **2,70** |
| Дыня, 1 кг | 1,00 | **1,30** |
| Кавун, 1 кг | 0,59 | **0,49** |
| Мандарыны, 1 кг | – | **3,90** |
| Персік, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,30 | **1,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## За сем вугроў рыбак атрымаў рэальны тэрмін і штраф 18 тысяч рублёў

МЯДЗЕЛ

19 ліпеня 31-гадовы бацька дваіх дзяцей са Свіры адправіўся з таварышам на возера Мядзел каля вёскі Стругалапы.

Лавіў калабашкамі – прыладай з пенапластавым паплаўком.

На наступную раніцу ў яго ў машыне знайшлі сем вугроў, якіх забаронена лавіць аматарам. Налічылі шкоду ў 13,4 тысячы рублёў, завялі крымінальную справу. На днях абвясцілі прысуд.

Інспектары прыродаахоўы затрымалі рыбака на досвітку 20 ліпеня, калі за ім прыехаў таварыш, каб забраць здабычу, лодку і снасці. Акрамя вугроў, што ляжалі ў мяшку на пярэднім сядзенні, у машыне знайшлі 107 калабашак. А дома ў яго знайшлі яшчэ сто метраў сетак.

Намеснік пракурора Мядзельскага раёна **Андрэй Гавета**, які прадстаўляў у судзе і дзяржабвінавачанне, удакладніў Onliner, што заяўленую шкоду абвінавачаны так і не кампенсаваў. Гэта ўлічылі пры вынясенні прысуду.

Таксама адбілася тое, што мужчыну раней ужо каралі за браканьерства.

2 верасня суд Мядзельскага раёна прызначыў рыбаку пакаранне ў выглядзе года і трох месяцаў калоніі агульнага рэжыму і штрафу ў 150 базавых велічынь (3825 рублёў).

Таксама ён павінны заплаціць 669 рублёў дзяржпошліны. Акрамя таго, на ім так і вісіць прычыненая прыродзе шкода – 13 387 рублёў 50 капеек. Разам вугры абышліся ў 17 911,5 рубля і частку жыцця. Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны.

**Паводле onliner.by.**

## Машына ўляцела ў дрэва. Загінуў 81-гадовы кіроўца

ВАЛОЖЫН

У нядзелю, 8 верасня, у Валожынскім раёне паміж станцыяй Радашкавічы і вёскамі Туркаўшчына і Гіравічы на аўтадарозе адбылося смяротнае ДТЗ.

Як распавялі ў УДАІ МУС, аўтамабіль «Кіа» на закругленні дарогі па незразумелай прычыне працягнуў рухацца прама. У выніку 81-гадовы кіроўца ўляцеў у дрэва і загінуў.

Дакладная прычына смерці будзе ўстаноўлена пасля судова-медыцынскай экспертызы.

**Паводле ККС Мінаблвыканкама.**

## Знайшлі мінамётную міну часоў Другой сусветнай

АСТРАВЕЦ

У суботу, 7 верасня, у міліцыю паступіў званок ад жыхара вуліцы Камсамольскай у Гудагаі.

Ён пры капанні траншэі для водаправода адкапаў мінамётную міну з каразіяй – меркавана часоў Другой сусветнай.

– Адразу ж супрацоўнікі РАУС праінспектавалі чалавека, які тэлефанаваў, аб першачарговых мерапрыемствах, і выбылі на месца. Тэрыторыю ачапілі, жыхароў бліжэйшых дамоў эвакуіравалі, – распавёў намеснік начальніка РАУС **Вадзім Савіцкі**. – На месца прыбыла група размініравання вайсковай часці 7434. Міну вынялі і вывезлі для абясшкоджвання.

**Паводле ostrovets.by.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Паехаў на заробкі ў Санкт-Пецярбург і знік

ВАЛОЖЫН

Валожынскі РАСК шукае 42-гадовага **Аляксея Аляксандравіча Астаўнова**.

Зніклы – ураджэнец вёскі Масцішча Валожынскага раёна.

Ён зарэгістраваны па адрасе: **Валожын, вуліца 8 Сакавіка, 7/2.**

Сёлета 16 чэрвеня ён паехаў на заробкі ў Санкт-Пецярбург. Да гэтага часу месцазнаходжанне мужчыны не ўстанавілі, – паведамляюць у Валожынскім РАСК.



**Прыкметы:** на выгляд каля 41 года, рост 160-174 сантыметры, худы, з авальным смуглявым тварам. Сярэдні лоб, малы прамы нос, прамыя светлыя валасы. Можа насіць бараду. Глухі голас, ясная гаворка, памер абутку 42-43.

**Асобыя прыкметы:** сутулы, татуіроўка на левым або правым плячы ў выглядзе павука.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота МУС.

У маршрутцы загінулі двое работнікаў смаргонскага прадпрыемства.

# Маршрутка наехала на МАЗ. Двое загінулі на месцы

СМАРГОНЬ

**Здарэнне адбылося 9 верасня каля 14:40 на 85-м кіламетры аўтадарогі М14 у Мінскім раёне.**

Кіроўца маршрутнага таксі «Фольксваген» кірунку Магілёў-Смаргонь наехаў на МАЗ. Аўтапоезд стаяў на абочыне з-за паломкі.

У маршрутцы было пяцёра пасажыраў – усе работнікі смаргонскага прадпрыемства.

У выніку ДТЗ двое загінулі на месцы. Кіроўца і трое пасажыраў атрымалі раненні, іх шпіталізавалі. Кіроўца фуры не пацярпеў. Папярэдне кіроўцы цвярозыя.

Прычыны аварыі высвятляюць.

Вядома, што кіроўца мікрааўтобуса мае правы кіроўцы катэгорыі AM, B, C, D. Мужчына працуе на прадпрымальнікаў з Магілёўскай вобласці. Перавозчык мае ліцэнзію на гарадскія, прыгарадныя і міжгародныя аўтаперавозкі пасажыраў.

Паводле папярэдняй інфармацыі, у дзень, калі адбылося ДТЗ, у кіроўцы быў нерэгулярны, гэта значыць, разавы, рэйс. Ці так гэта на самой справе – цяпер высвятляе транспартная інспекцыя.

**Паводле прэс-службы МУС.**

## Трох мужчын засыпала грунтам. Двое загінулі

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося вечарам 7 верасня. Трох чалавек засыпала грунтам каля вуліцы Гарадоцкай.

На месца прыехалі выратавальнікі.

Высветлілі, што падчас земляных работ па ўладкаванні ліўневай каналізацыі абрынуўся грунт у траншэі. Глыбіня траншэі больш за два метры, шырыня – 1,5 метра.

Да прыезду выратавальнікаў жыхары з навакольных дамоў спрабавалі дапамагчы.

Пажарныя паднялі работнікаў. Двое з іх загінулі, аднаго шпіталізавалі.

Вядома, што мужчыны працавалі ў гаражным кааператыве па ўласнай ініцыятыве.

Грунт у траншэі абваліўся і засыпаў усіх трох. Двум загінулым – 20 і 37 год. Пацярпеламу, якога шпіталізавалі, – 43.

**Паводле прэс-службы Маладзечанскага РАУС.**

## На Віленскай машына збіла дзяўчыну

Здарэнне адбылося ў 7:50 трэцяга верасня.

20-гадовы кіроўца-маладзечанец ехаў па вуліцы Віленскай на аўтамабілі «Фольксваген-Пасат». Па словах кіроўцы, ён рухаўся з хуткасцю, не большай за сорак кіламетраў у гадзіну.

Прыкладна за дзесяць метраў ён заўважыў, што па пешаходным пераходзе дзяўчына пераходзіць дарогу.

– Кіроўца пачаў тармазіць. Аднак быў дождж, слізкі асфальт. Ён не паспеў спыніцца і наехаў на дзяўчыну. Здарэнне адбылося каля таго месца, дзе раней стаяла «сцякляшка» – кажа інспектар ДАІ Маладзечна **Сяргей Бартош.**

Кіроўца выклікаў «хуткую дапамогу» і чакаў супрацоўнікаў ДАІ.

Дзяўчыну забралі ў траўматалагічнае аддзяленне бальніцы. У яе закрытая чэрапна-мазгавая траўма, раны.

На кіроўцу склалі пратакол за тое, што ён не прапусціў пешахода на пераходзе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Спрабавалі скрасці кабель на 450 рублёў

СМАРГОНЬ

У Смаргоні двое мясцовых жыхароў паспрабавалі скрасці сілавы кабель з тэрыторыі прадпрыемства па праспекце Індустрыяльны.

Мужчыны нідзе не працуюць, таму вырашылі выкрасці амаль 200 метраў кабелю, каб атрымаць грошы з яго продажу.

Малодшы з падазраваных раней працаваў на прадпрыемстве, аднак яго звольнілі за парушэнне дысцыпліны. Каля гадзіны дня ў нядзелю ён са сваім таварышам адправіўся на былое працоўнае месца за асабістымі рэчамі. На тэрыторыю прайшлі праз месца, дзе няма агароджы, забралі спецвопратку і прыхапілі кабель на суму 450 рублёў.

Зламыснікі накіраваліся на выхад па тым жа маршруце, па якім і зайшлі, аднак былі заўважаныя майстрам (былым кіраўніком звольненага работніка) і вартаўніком. Іх затрымалі на месцы злачынства.

У дачыненні да іх распачалі крымінальную справу па артыкуле «Крадзеж».

**Паводле УУС Гродна.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

## Адкрываюць «Лагер смерці Трасцянец. Гісторыя і памяць»

ВІЛЕЙКА

**У выставачнай зале Вілейскага краязнаўчага музея ад 12 верасня да 18 кастрычніка правядуць выставу «Лагер смерці Трасцянец. Гісторыя і памяць».**

– У ваколіцах вёскі Малы Трасцянец, уключанай сёння ў рысу Мінска, ад вясны 1942 года да лета 1944-га існаваў найбуйнейшы лагер смерці на акупаванай тэрыторыі Савецкага Саюза, – распавядае навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава**.

**Каб схаваць сляды злачынстваў, у канцы 1943 года нацысты раскапалі і спалілі астанкі ахвяр.**

Паводле ацэнкі, зробленай Надзвычайнай дзяржаўнай камісіяй у жніўні 1944 года, колькасць ахвяр склала 206 500 чалавек.

**Гэта было грамадзянскае насельніцтва Беларусі, савецкія ваеннапалонныя, беларускія, аўстрыйскія, нямецкія і чэшскія яўрэі, партызаны і падпольшчыкі.**

Пасля 1945 года тут былі ўсталяваныя савецкія мемарыяльныя знакі, а ў 2015 годзе ўрачыста адкрылі вялікі мемарыяльны комплекс.

Дадзеная выстава, якая ўяўляе сабой пілотны беларуска-нямецкі праект, закліканая аддаць даніну памяці ахвярам Трасцянца і адначасова паказаць, якім чынам і дзе ў Беларусі, Германії, Аўстрыі і Чэхіі захоўваецца памяць аб загінулых.

Распавядаецца таксама пра месцы масавага знішчэння ў Трасцянцы і тых, хто здзейсняў злачынствы.

Мэта выставы – спрыяць таму, каб Малы Трасцянец зацвердзіўся ў грамадскай свядомасці як месца злачынстваў нацызму і помнік еўрапейскага значэння.

**Дадзеная выстава – вынік міжнароднага дыялогу з удзелам гісторыкаў з Беларусі, Германіі, Аўстрыі і Чэхіі, які пачаўся ў жніўні 2014 года.**

Арганізатарамі выставы выступілі Міжнародны адукацыйны цэнтр з Дортмунда, Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр імя Ёханэса Раў і Фонд «Мемарыял памяці забітых яўрэяў Еўропы».

Дызайн выставы выканала берлінскае агенцтва «Лінксбюндзінг»

Двухмоўную нямецка-рускую перасоўную выставу адкрылі 8 лістапада 2016 года ў царкве Святой Кацярыны ў Гамбургу.

Адкрыццё ў Беларусі адбылося 13 сакавіка 2017 года ў будынку Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У дадатак да экспазіцыі падрыхтаваны двухмоўны каталог выставы.

**Выстава будзе працаваць па адрасе: пл. Свабоды, 1.**

Запрашаюць усіх ахвотных.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота забеспячэнне Таццяна КНАЦКО.

Падчас адной з выстаў.

# Наш пазаштатны аўтар абараніла доктарскую ў іспанскім універсітэце

## Дысертацыя Анхелы Эспінасы Руіс прысвечаная творчасці пісьменнікаў Баршчэўскага і Бэкера

**5 верасня ў Мадрыдзе ўпершыню прайшла абарона доктарскай дысертацыі па беларускай літаратуры. Аўтар працы – іспанка Анхела Эспіноса Руіс. Анхела – пазаштатны аўтар «Рэгіянальнай газеты».**


Фота са старонкі пасольства ў Facebook.

Анхела і прадстаўнік пасольства Беларусі ў Іспаніі консул Аляксандр Івашкевіч, які прысутнічаў на абароне.

Тэма дысертацыі – «Сімвалізм народнага паходжання ў прозе Яна Баршчэўскага і Густава Адольфа Бэкера».

На абароне прысутнічаў прадстаўнік пасольства Беларусі ў Іспаніі. Працу даследчыца абараніла «на выдатна».

Мы задалі Анхеле некалькі пытанняў з нагоды абароны.

**– Чаму для даследавання ты абрала менавіта Яна Баршчэўскага?**

– У Варшаве, падчас магістратуры, я вучылася ў прафесара **Міколы Хаўстовіча** – аднаго з самых знакамітых спецыялістаў у галіне літаратуры 19 стагоддзя, і канкрэтна ў творчасці Яна Баршчэўскага. Ён апублікаваў некалькі манаграфій на гэту тэму.

Хаця сваю магістарскую працу я напісала пра паэзію **Міхася Стральцова**, у мяне, безумоўна, з'явілася зацікаўленасць да Баршчэўскага. Сам прафесар Хаўстовіч казаў, што, напэўна, магла б выйсці добрая параўнальная праца, калі ўзяць беларускую і іспанскую літаратуры 19 стагоддзя. Мы часта абмяркоўвалі Баршчэўскага. Тады я падумала пра Густава Адольфа Бэкера, пра падабенства двух аўтараў. Пачала перачытваць, пераасэнсоўваць.

**– Ці ёсць у Іспаніі нейкія традыцыі-забабоны, якія трэба выканаць, каб абарона дысертацыі прайшла ўдала?**

– Ёсць звычайныя забабоны, якія не толькі абароны тычацца. Напрыклад, не называць сябе кандыдатам навук раней, чым абаронішся. Яшчэ – традыцыйны абед пасля абароны, за які плаціць сам былы аспірант.

**– Што найбольш палохала, хвалявала?**

– Найбольш палохала магчымасць, што тэхніка не запрацуе. Асабліва таму, што адна з апанентаў – прафесар **Галіна Тварановіч** – мелася выступаць праз відэаканферэнцыю. Таксама быў страх, што могуць задаць нейкае складанае пытанне або што нехта моцна прычэпіцца і я магу абарону праваліць.

Увогуле апошнія дні адчувала, што ў мяне няма дастатковага ўзроўню на такую ступень і што мяне раскрыюць акурат на абароне. Сіндром самазванца.

**– Колькі было пытанняў на абароне? Якое самае складанае і чаму? А якое самае лёгкае і чаму?**

Пытанняў было не так і многа. У нас апаненты робяць поўны каментар, у якім сумяшчаюцца і пахвала, і крытыка, і каментары, і развагі, і пытанні. Таму, мабыць, чыстых пытанняў было чатыры-пяць.

Самае лёгкае – пра матывацыю працы: чаму вырашыла пісаць пра беларускую літаратуру і яшчэ з параўнальным падыходам?

Самыя складаныя пытанні – тыя, якія тычыліся канкрэтных кніг і аўтараў, якіх я не выкарыстала. Апанентаў было пяць. Кожны быў спецыялістам у сваёй, адрознай, галіне. Было відавочна, асабліва пры такой міжнароднай працы, што яны хацелі бачыць больш пра сваё, называлі розныя манаграфіі, аўтараў.

Некаторых я чытала і ведала адносна добра, магла ацаніць, а пра іншых першы раз чула, асабліва ў выпадку румынскіх аўтараў. Але была магчымасць даваць агульныя адказы, каб не затрымлівацца на кожнай падрабязнасці і не зацягваць абарону моцна. Я занатавала прозвішчы аўтараў і назвы кніг. Буду чытаць, каб былі новыя веды на будучыя даследаванні.

**– Ужо як-небудзь адзначыла ўдалую абарону?**

– Апрача ўрачыстага абеду, яшчэ не паспела адзначыць. Я чалавек нудотны крыху, мабыць. Вярталася ў Малагу, шмат спала, адказвала на пытанні інтэрв'ю. Цяпер буду пісаць субтытры да відэа абароны. Можа, зойдзем на абед усёй сям'ёй (і з сябрамі, калі будуць вольныя) на выхадныя.

**– Што плануеш цяпер у навуцы, у працы, у жыцці?**

– Я цяпер у пошуках працы, постдактаранатуры. У навуцы буду далей займацца беларусістыкай. У канцы верасня паеду на Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі, які адбудзецца ў Вільні.

Наконт жыцця – не ведаю. Я задаволеная тым, што ёсць. Хіба што бачыцца часцей з сябрамі хацела б. У залежнасці ад таго, дзе знайду працу, будзе лягчэй ці цяжэй. У родным горадзе амаль ніхто не застаўся, ды й тут славістыкі не існуе. Я, хутчэй за ўсё, хачу з'ехаць за мяжу.

Матэрыялы Анхелы вы можаце пачытаць на нашым сайце і ў ранейшых нумарах «Рэгіянальнай газеты».

**Ян Баршчэўскі** (1790, вёска Мурагі на Віцебшчыне – 1851, горад Чуднаў, цяпер Украіна), беларускі літаратар, выдавец. Вядомы за свой найбунейшы твор «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (на польскай мове). За жыццё напісаў таксама тры вершы на беларускай мове. Лічыцца адным з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры.
**Густаў Адольф Бэкер** (1836 -1870) – найбуйнейшы іспанскі пісьменнік-рамантык.

Аксана **ЯРАШОНАК**, Ігар **ПАЛЫНСКІ**.

Верные решения

ООО «САЮРА»

ОКНА и ДВЕРИ из ПВХ

БАЛКОННЫЕ РАМЫ

5 лет гарантия

Рассрочка 0%

(8-029) 865-49-59 МТС
(8-029) 656-41-37 А1
(8-029) 886-95-80 МТС

- Умеренные цены
- Высокое качество
- Отделка откосов

ДВЕРИ металлические межкомнатные

МТС (8-029) 812-75-72

НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ

УНП 690601417

---

ВОКНЫ

танна

ад вытворцы

Тэл. (8-029) 394-64-99
(8-029) 763-00-32

ТДА «Вокны-Тэрэкс» УНП 693536136

---

Организации требуются

СЛЕСАРЬ-ИНСТРУМЕНТАЛЬЩИК

НАЛАДЧИК ХШО

Возможно обучение
Зарплата по результатам собеседования

Тел. (8-029) 640-50-20

УП «АДМ про» УНП 691395619

---

Филиалу «Автобусный парк № 5» г. Вилейка требуются:

- ИНЖЕНЕР по техническому осмотру транспортных средств
- ВОДИТЕЛИ АВТОМОБИЛЕЙ, имеющие категории С, D и Е
- МАЛЯР (временно)
- КОНДУКТОР

Заработная плата высокая • Возможно обучение за счет средств филиала • Жильё предоставляется

Тел. для справок (8-01771) 39-702, 39-936, 39-935, МТС (8-029) 269-56-35

УНП 601070208

---

БУРЕНИЕ СКВАЖИН НА ВОДУ

Высокое качество • Большой опыт
Короткие сроки выполнения работ

Тел. (8-029) 133-65-74
(8-029) 844-65-74

ИП Гуринович А. В. УНП 691501462

---

ПВХ балконные рамы • входные и межкомнатные

ОКНА ДВЕРИ

ООО «Вторая оконная»

РАССРОЧКА И КРЕДИТ
без первоначального взноса, оформление на дому

+375(33)330 28 88
+375(29)330 22 88

---

Ж/Б КОЛЬЦА

Доставка на объект и монтаж

Велком (8-029) 911-56-05
МТС (8-029) 861-69-05

ЧУП «ТГВСтрой» УНП 692024702

---

На автосервис г. Молодечно требуется

АВТОСЛЕСАРЬ

с опытом работы

- График 3/3
- Заработная плата договорная

Тел. (8-033) 669-20-30

ИП Жоховец М.О. УНП 692022766

---

Рэгіянальная газета. Rh.by

Магчыма, менавіта вас чакае

КРУТАЯ ПРАЦА МАРКЕТОЛАГА

У БЕЛАРУСКАМОЎНЫМ ВЫДАННІ ПАВІЛЛЯ

ШТО НАМ ПАТРЭБНА АД ВАС:

актыўнасць і камунікабельнасць

майстэрства зарабляць

адказнасць

ШТО МЫ ПРАПАНУЕМ У АДКАЗ:

сацыяльны пакет

стабільны заробак з высокім працэнтам ад продажаў

офіс у зручным месцы і цёплы калектыў

ДАСЫЛАЙЦЕ РЭЗЮМЭ:

regionnews@rh.by

УНП 600288444

---

ОКНА, ДВЕРИ, БАЛКОНЫ, ЛОДЖИИ из ПВХ

- Москитные сетки • Откосы
- Регулировка • Замена стеклопакетов

НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ

РОЛЬШТОРЫ, ЖАЛЮЗИ

РАССРОЧКА КРЕДИТ

- Металлические
- Закрытого типа
- Свободносвисающие
- День-ночь

(8-029) 874-80-80 МТС • (8-025) 512-92-66 Лайф

ИП Козел В.Е. УНП 691517355

---

УСЛУГИ МАНИПУЛЯТОРА

Платформа 6х2,4 м • 5 тонн

Велком (8-029) 911-56-05
МТС (8-029) 861-69-05

ЧУП «ТГВСтрой» УНП 692024702

---

КАССОВЫЕ АППАРАТЫ; ВЕСЫ

ТОРГОВОЕ ОБОРУДОВАНИЕ

АВТОМАТИЗАЦИЯ ТОРГОВЛИ

Тел. (8-0176) 52-79-87
А1 (8-029) 195-42-08
(8-029) 112-36-54

ООО «СтэйС» г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 68-6

УНП 600233668

---

Приглашаем на работу

УБОРЩИЦ И МОЙЩИКОВ ПОСУДЫ (женщины)

с бесплатным проживанием в Минске

Вахтовый метод • З/п от 570 руб.

Тел. (8-044) 530-27-91
(8-044) 530-28-17
(8-017) 388-28-38

ЧУП по оказанию услуг «Юмакс групп» УНП 192621270

---

ООО «Вторая оконная» УНП 692023471

мастер ОК!

САЙДИНГ И КРЫШИ

Монтаж любой сложности
Любые расцветки
Утепление домов

РАССРОЧКА И КРЕДИТ
без первоначального взноса

+375(33)330 28 88
+375(29)330 22 88

---

Филиалу УМ «БЭСМ» на участок по строительству БелАЭС ТРЕБУЮТСЯ:

- МОНТАЖНИКИ НАРУЖНЫХ ТРУБОПРОВОДОВ
- ДОРОЖНЫЕ РАБОЧИЕ
- ПЛОТНИКИ-БЕТОНЩИКИ

Тел. (8-029) 140-54-88

УНП 100056165

---

МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА (РБ, РФ, Польша)

- Модульная металлочерепица, водостоки
- Профнастил, штакетник металлический
- Элитные окна ПВХ, мансардные окна
- Металлический сайдинг, 3D заборы
- Метробонд, гибкая черепица

Рассрочка 0%

www.vira.by

ООО «Амикс СтройГрупп» УНП 192930308

Тел. (8-029) 65-777-15 (8-017) 348-13-78

---

Приглашаем на работу

РАБОЧИХ ВСЕХ СПЕЦИАЛЬНОСТЕЙ

для строительства плавательного бассейна в г. Сморгони

Оплата труда достойная и своевременная

Тел. (8-029) 679-502-22
(8-029) 679-50-30

ЧУП «Инвестиционно-строительная компания «ПАНИ» УНП 691881131

---

- АРМАТУРА
- ТРУБЫ
- МЕТАЛЛОПРОКАТ
- ПРОФНАСТИЛ

РЕЗКА, ДОСТАВКА

Аренда автокрана

г.Молодечно, ул. Рабочая, 8а/1
(8-0176) 58-04-76, 50-56-53
(8-029) 196-90-53 (-23), (-43)

ООО «Молметаллоконтракт» УНП 691398156

---

ЧПТУП «ЮЛДЕН МЕБЕЛЬ»

КУХНИ

и другая корпусная

МЕБЕЛЬ

Тел. (8-029) 834-51-93

УНП 691172684

---

Рэклама ў «РГ»

8 (0176) 53-78-04
reklama@rh.by

---

В связи с расширением производства в цех металлообработки ТРЕБУЮТСЯ:

- ТОКАРЬ (з/п от 900р.)
- ОПЕРАТОР СТАНКОВ с ПУ (з/п высокая)
- СЛЕСАРЬ МСР (з/п от 700р.)

Требования: опыт работы, без вредных привычек.

Условия: официальное трудоустройство, социальные гарантии, график работы пн.-пт.

Обращаться по тел. (8-0176) 73-44-07, (8-029) 630-41-72

ООО «Агрокомплекс» УНП 190700888

---

Тэлефонныя коды гарадоў рэгёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | Вілейка | -01771, |
| Астравец | -01591, | Маладзечна | -0176, |
| Ашмяны | -01593, | Мядзел | -01797, |
| Валожын | -01772, | Смаргонь | -01592. |

---

ТЕПЛИЦЫ БЕСЕДКИ

ПОЛИКАРБОНАТ

WWW.AGROINVEST.BY

МОНТАЖ • ГАРАНТИЯ

РАССРОЧКА

ООО «Светопрозрачная кровля» УНП 591001987

(8033)373-80-20 МТС
(8029)324-80-20 А1

---

Деревообрабатывающее предприятие «Сапфир-Авто»

реализует

ПИЛОМАТЕРИАЛЫ

по цене от 80 руб.

Тел. (8-029) 177-24-44 Иван

УНП 690336923

---

ООО «ТЭП «Белгрузавтотранс» УНП 100823427

BELGRUZ

SQAS

Isopa

ISO 9001 BUREAU VERITAS Certification

Крупная транспортная компания в связи с увеличением автопарка приглашает ВОДИТЕЛЕЙ-МЕЖДУНАРОДНИКОВ категории «СЕ» с опытом работы от 2-х лет

Обращаться: г. Минск, ул. Бабушкина, 33-113. Тел. (8-017) 380-00-92

---

УТЕПЛЕНИЕ ДОМОВ

заполнение воздушных зазоров наружных стен здания карбамидным

ПЕНОПЛАСТОМ МАРКИ ПЕНОТЕК-НГ

СНИЖЕНИЕ ПОТЕРЬ ТЕПЛА ДО 40%

penotek-ng.by

(8-029) 127-04-25
(8-029) 563-28-40

ИП Грищенков И.Н. УНП 191574779

---

Проектирование Строительство

Газопровод • Отопление
Водопровод • Вентиляция
Канализация
Алмазное бурение
Проколы под дорогой
АРЕНДА МИНИ-ЭКСКАВАТОРА

Велком (8-029) 911-56-05
МТС (8-029) 861-69-05

ЧУП «ТГВСтрой» УНП 692024702

## Правялі форум псіхалагічнай культуры «ПсіПрасвет»

МАЛАДЗЕЧНА

7 верасня шэсць кваліфікаваных псіхолагаў з Маладзечна і Мінска расказалі пра найбольш распаўсюджаныя праблемы ў грамадстве, прапанавалі ўдзельнікам пэўныя тэмы для абмеркавання.

Да прыкладу, псіхолаг з Маладзечна **Марына Валасковіч** вяла групу эмацыйнага здароўя. Яна тлумачыла ўдзельнікам, што такое эмоцыі і чаму іх трэба прымаць.

Сталічны псіхолаг **Алена Аўчыннікава** закранула тэму парушэнняў харчовых паводзін, крызісаў і траўмаў. Яе кароткая, лаканічная і карысная лекцыя праходзіла пад назвай «Уплыў бацькоў на развіццё расстройстваў харчовых паводзін у дзяцей».

Кожны прафесіянал раскрыў праблемы і даў парады прысутным. Самае галоўнае, што форум быў адкрыты для ўсіх ахвотных: ад школьнікаў да пенсіянераў. І кожны мог знайсці лекцыю або майстэрню па душы.

**– Прасіць дапамогі не сорамна, а трэба. І магу смела запэўніць, у спецыялістаў гэта выйшла на ўра, – адзначыла адна з удзельніц форуму.**

Дадзенае мерапрыемства ў Маладзечне ладзілі ўпершыню.

І не выключана, што пляцоўка «Адкрытая прастора» стане штаб-кватэрай форуму ў Маладзечне.

**Яна АКІМАВА,**
**навучэнка школы журналістыкі «Маладзік».**

## На адкрыцці тэатральнага сезона частавалі яблыкамі

МАЛАДЗЕЧНА

У Мінскім абласным драматычным тэатры сезон адкрылі 10 верасня візітнай карткай драмтэатра – спектаклем «Камедыя».

У холе працуе вясельная фотавыстава **Волі Трубач**. А гледачоў частавалі яблыкамі.

Дырэктар тэатра **Юры Крывенькі** паведаміў гледачам, што сёлета ў Мінскім абласным драмтэатры з'явяцца два новыя акцёры.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## На рэстаўрацыю Гальшанскага замка далі 800 тысяч рублёў

АШМЯНЫ

**Аляксандр Лукашэнка** падпісаў распараджэнне, згодна з якім прадугледжваецца выдзяленне грошай для рэалізацыі шасці культурных праектаў. Сярод іх – Гальшанскі замак.

**800 тысяч рублёў накіравалі на кансервацыю і фрагментарную рэстаўрацыю культурнага аб'екта.**

**Паводле БелТА.**

## Школьнікі будуць здымаць экалагічныя мульцікі

МАЛАДЗЕЧНА

Паводле праекта ЮНЕСКА, рыхтаваць школьнікаў-мультыплікатараў будуць у 12 гарадах Беларусі. Сярод іх і Маладзечна.

Праект называецца «Моладзевая валанцёрская сетка: Экалогія на пальцах». Яго мэта – стварэнне сістэмы падрыхтоўкі школьнікаў-мультыплікатараў. Мяркуецца, што падрыхтаваныя маладыя людзі павысяць узровень экалагічнай культуры і экалагічнай асветы сваіх аднагодкаў.

Моладзевая валанцёрская сетка будзе ўключаць 13 гуртоў мультыплікатараў у 12 гарадах Беларусі: Мінску, Брэсце, Гродне, Мастах, Віцебску, Магілёве, Гомелі, Рагачове, Мазыры, Барысаве, Маладзечне, Слуцку.

У кожнай групе – па 24 школьнікі і 12 выкладчыкаў.

**Усяго падрыхтуюць 312 школьнікаў-мультыплікатараў, якія далей падзеляцца сваімі ведамі ў галіне экалагічнай культуры амаль з сарака тысячамі навучэнцаў.**

Праект пачнуць у верасні, а закончаць сёлета ў снежні.

**Паводле Беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА.**



Фота забяспечана Сяргеем ГАПОНАМ.

Ствараюць фота з дапамогай сонечнага святла.



Сяргей Лескець – пра фотаалхімію.



Творы.

# Як гэта – здымаць без фотакамеры?

## Фатографы ў Крэве зладзілі арт-пікнік

**У апошні дзень лета ўдзельнікі арт-пікніка ў Крэве на Юравай гары рабілі фотаздымкі кветак. Для гэтага спатрэбілася старая фотапапера, сонечнае святло, самі кветкі і… усё. Фотакамера была непатрэбная.**

СМАРГОНЬ

Такая тэхналогія фатаграфавання называецца Lumen Prints і вядомая ад 19 стагоддзя.

Кветку кладуць не паперу, і праз нейкі час з дапамогай сонечнага святла на паперы атрымліваецца выява расліны.

### Зёлкі, метафізіка, фотаалхімія…

Своеасаблівы арт-пікнік у Крэве для фатографаў, журналістаў, мясцовых жыхароў зладзілі два фатографы з рэгіёна – **Сяргей Гапон** з Крэва і **Сяргей Лескець** з Маладзечаншчыны.

– Я бываю на падобных фестывалях у Польшчы, – расказаў «Рэгіянальнай газеце» фатограф наш пазаштатны аўтар Сяргей Лескець. – Там даволі распаўсюджаная практыка, калі творцы, мастакі, фатографы збіраюцца, працуюць, нешта ствараюць. А пасля ўсё заканчваецца канцэртам. Захацелася зладзіць нешта падобнае і ў нас.

На фэст сабралася каля 15 чалавек. Прафесійных фатографаў з іх была толькі палова. Перыядычна далучаліся мясцовыя крэўскія дзеці. І, па словах Сяргея, з захапленнем друкавалі кветкі. Прыйшоў і краязнаўца **Аляксандр Камінскі** са сваімі вучнямі.

Акрамя заняткаў незвычайнай фотаздымкай, удзельнікі гутарылі пра метафізіку беларускіх траў. Сяргей Лескець прачытаў лекцыю пра фотаалхімію. Бо стварэнне здымкаў толькі з дапамогай сонечнага святла заўсёды лічылася чымсьці магічным. Былі майстар-класы ад фатографаў, экскурсія па Крэве, канцэрт **Сяргея Доўгушава**.

### Сяргей Гапон: Калі ўсе з'едуць, хто застанецца?

Іншы арганізатар арт-пікніка, **Сяргей Гапон**, родам з Крэва. У Мінску ён жыў 13 год. Гэта, па словах сураззмоўцы, было трэба яму, каб атрымаць адукацыю, прафесійны і жыццёвы досвед.

– Падумаў: усе едуць у сталіцу. Калі ўсе паедуць, хто ж застанецца ў Крэве, – дзеліцца Сяргей.

Тут, ля падножжа Юравай гары, ён набыў дом і вырашыў застацца. Для фатографа – гэта карысна, перакананы Сяргей Гапон:

– У Беларусі больш партызанскае жыццё. Сюжэты для добрых здымкаў не ляжаць на паверхні. Каб нешта знайсці, трэба паназіраць. Таму я шмат здымаю ў Крэве.

Па форме, па тэрыторыі, Крэва засталося такім, як сто год таму, кажа Сяргей. Аднак змест яго мяняецца. Людзі ў пошуках лепшага жыцця і працы выязджаюць у горад. Бо праца ў Крэве, па словах Сяргея, – гэта або калгас, або лясгас, або нідзе.

Але ў Крэва і ваколіцы прыязджаюць іншыя людзі. І не толькі для таго, каб садзіць бульбу. А з мэтай ладзіць тут культурніцкія праекты.

### А раптам нехта захоча набыць у Крэве лецішча?

Арт-пікнік, па словах арганізатараў, накіраваны не столькі на прафесійных фатографаў, колькі на мясцовых людзей, а таксама на прыезджых. На тое, каб кагосьці далучыць да прыгожага, а некаму адкрыць гісторыю Крэва.

– Людзі захапляліся мясцінамі, кветкамі, летам, – прыгадвае Сяргей. – А раптам пасля нашай імпрэзы нехта захоча набыць тут лецішча? Неяк вывозячы смеццє, я пабачыў на звалцы кавалкі дамоў, відаць, вывезеных з хутароў і вёсак. Такі лёс ні ў якім разе не павінны напаткаць Крэва.

У планах арганізатараў праз год-два зрабіць Крэва арт-рэзідэнцыяй са штогадовымі культурнымі фэстамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Таджыкістан вачыма беларускі: у



Вось як выглядае ўсходні базар.

**Чатыры з паловай тысячы кіламетраў і пяць гадзін у самалёце – і беларус будзе ў Таджыкістане. У краіне з зусім іншай культурай і ментальнасцю, з якой нас некалі злучаў Савецкі Саюз.**

Ці шмат агульнага паміж намі цяпер? Правёўшы дзесяць дзён у Таджыкістане, карэспандэнт «РГ» спрабуе адказаць на гэта пытанне.

## Хочаш сысці за мясцовага – надзявай штаны і турбан

Дабрацца з Беларусі да Таджыкістана не так лёгка. Па-першае, паміж краінамі няма прамога авіярэйса. Ляцець давядзецца з перасадкай або ў Маскве, або ў Стамбуле. Па-другое, пералёты дарагія – білет у два бакі абыдзецца каля 550 долараў.

Першае, што адчуваеш па прылёце ў Душанбэ, – спёка. Летам паветра праграваецца да +40. У такім клімаце нялёгка прыходзіцца раслінам. Таму на вуліцах Душанбэ пастаянна сустракаеш работнікаў, якія паліваюць клумбы і дрэвы. Прычым часта гэта робіцца пры дапамозе звычайных вёдраў і коўшыкаў.

Адзенне мясцовых не заўсёды адпавядае надвор'ю. Дзяўчаты апранаюцца ў шырокія сукенкі даўжэй за калена, пад якія надзяваюць шаравары ў тым жа колеры, а на галаве носяць хусткі і турбаны. Хлопцы, нягледзячы на спёку, носяць штаны і закрыты абутак. Сустрэць чалавека ў кароткіх шортах ці спадніцы тут немагчыма. Гэта абумоўлена і тым, што таджыкі з'яўляюцца мусульманамі.

Другое, што адразу кідаецца ў вочы, – велізарныя расцяжкі з цытатамі прэзідэнта Таджыкістана Эмамалі Рахмона і яго выявамі. Імі завешана ўсё Душанбэ. На адным будынку давялося пабачыць аж шэсць расцяжак. Сустракаюцца яны нават на горных дарогах у бязлюдных мясцінах. Рахмон кіруе краінай ад 1994 года.

## Плоў ядуць рукамі, заядаючы ляпёшкай

Харчаванне – асобны раздзел у таджыкскай культуры. Стравы часта ставяць на падлозе, паслаўшы абрус, або на нізкім століку, які называецца дастарханам. Вакол яго кладуць тапчаны з падушкамі. Пасля спякотнага дня паваліцца на такі тапчан і есці, лежачы на баку, – тое, што трэба!

Прыемна ўражвае, што на ўваходзе амаль у кожны рэстаран ёсць рукамыйнік: не даводзіцца шукаць прыбіральню, каб памыць рукі. Калі садзішся за стол, разумееш, чаму гэта важна. Многія стравы таджыкі ядуць без прыбораў.

Тыпова таджыкская страва – плоў, у які дадаюць шафран і разынкі. Мясцовыя ядуць яго рукамі з агульнай пасудзіны, спрытна збіваючы рыс у невялікія камячкі. Папулярныя таксама манты – мяса, загорнутае ў тонкае цеста, і самса – булкі з мясной начынкай.

Адразу варта заўважыць, што ў нас з таджыкамі рознае разуменне слова «мяса». У Таджыкістане мясам называецца ўсё, што не з'яўляецца косткай. Калі ў мантах таджыку трапяцца вузлы ці сухажыллі, якія немагчыма разжаваць, ён не зверне на гэта ўвагі.

Прыехаўшы ў Таджыкістан, немагчыма не зайсці ў чайхану – кавярню з дастарханамі і тапчанамі. Чай, звычайна чорны з лімонам, заварваюць у вялікім чайніку, а пасля разліваюць па піялах. Першую піялу абавязкова падаюць госцю, прыклаўшы правую руку да сэрца.

Піяла – тая рэч, якая неверагодна пасуе ўсходняму ладу жыцця. Рука не падымецца класці ў іх чайныя пакецікі, адным глытком выпіваць напой і бегчы па справах. Піяла патрабуе часу, расслабленага стану і гасцей – каб заварыць чай, разліць яго кожнаму і, пастаянна падліваючы свежы, абмяркоўваць апошнія навіны.

**Каву таджыкі амаль не п'юць, а калі і п'юць, то распушчальную. Любяць салодкія напоі – сокі, газіроўкі і колу. На дэсерт часта ядуць турэцкія мядовыя слодычы тыпу баклавы, або проста наразаюць дыню ці кавун.**

Хочаце адчуць сябе сапраўдным таджыкам? Ешце любую страву ўпрыкуску з ляпёшкай. Іх пякуць у адмысловых тандырных печках, лепячы цеста на яе сценкі. У складзе цеста няма нічога, акрамя вады, мукі і прыпраў, таму мясцовым ляпёшка замяняе хлеб.

Цэны на харчаванне тут прыемныя для беларусаў. З'есці паўнавартасны абед у рэстаране самаабслугоўвання можна за 3-5 долараў.

## У сталіцы дзясяткі фантанаў, у вёсках – няма водаправода

Душанбэ пакідае вельмі неадназначнае ўражанне. Горад ажывае ўвечары, калі спадае спёка. Людзі выбіраюцца гуляць у паркі, якія аздобленыя да такой ступені, што пачынае рабіць у вачах – паўсюль падсветка, ліхтарыкі, агеньчыкі і фантаны.

Нядаўна ў сталіцы з'явіўся 22-метровы штучны вадаспад, для якога давялося змяніць натуральнае рэчышча ракі Душанбінкі. Яго таксама з усіх бакоў падсвечваюць усімі колерамі вясёлкі.

Усё гэта вонкавае багацце мімаволі ўпіраецца ў факты аб штодзённым жыцці таджыкаў. Напрыклад, у тое, што сярэдняя пенсія складае каля 300 самані, ці 30 долараў. У тое, што

# адной руцэ піяла, у другой – плоў


Тыповыя дзвярныя праёмы.


Выява лідара краіны на фасадзе будынка.


Так у Таджыкістане накрываюць для гасцей.

ўва многія горныя вёскі дагэтуль не пракладзены водаправод, а электрычнасць туды часам падаецца толькі 3-5 гадзін на суткі.

На фоне гэтага не здзіўляе, што з інтэрнэтам у Таджыкістане таксама цяжка. Ён дарагі. Мадэм з якасным падключэннем на тыдзень можа каштаваць да 50 долараў. Далёка не кожная сям'я ці кавярня можа сабе яго дазволіць.

Гэта адбіваецца на кошце жылля. Зняць кватэру на суткі ў невялікім таджыкскім горадзе каштуе каля 15 долараў. Калі ў кватэры ёсць інтэрнэт – кошт падлятае да 30 і вышэй.

Бяда тут і з грамадскімі туалетамі. Калі яны і ёсць, то найчасцей уяўляюць сабой дзіркі ў падлозе. Для таго, каб зайсці ў некаторыя з іх, варта было б выдаваць на ўваходзе гумовыя боты і процівагазы.

Эканомяць тут на ўсім, на чым можна. Напрыклад, на вуліцах гарадоў вы не пабачыце паштовых скрыняў. Абслугоўваць іх – дадатковыя грошы. Таму калі вы захочаце дасылаць сябрам паштоўкі з Таджыкістана, будзьце гатовыя да сапраўднага квэста пад назвай «знайсці пошту». Але місія выканальная, праверана на ўласным досведзе.

## Вузкі разрэз вачэй – гэта не пра таджыкаў

Калі адысці ад бытавога і паглыбіцца ў гісторыю Таджыкістана, то ад яе пачынае займаць дух. Гэты ўсходні народ мае багатую культуру і старажытную гісторыю.

Таджыкская мова бярэ свой пачатак у персідскай, а сам народ адносіцца да індаеўрапейскай цывілізацыі. Менавіта таму таджыкі, у адрозненне ад узбекаў, кіргізаў і казахаў, маюць тыповы для еўрапейцаў шырокі разрэз вачэй.

Сама назва краіны паходзіць ад слова «тадж» – «карона». Таму таджыкі – гэта «народ, які носіць карону». Ды і нацыянальная валюта мае гістарычную назву. Ісмаіл Самані – заснавальнік першай таджыкскай дзяржавы, якая была ўтвораная ў дзявятым стагоддзі.

**Пасля распаду Савецкага Саюза ў Таджыкістане хадзіў таджыкскі рубель, але ад 2000 года яго замяніў самані (націск на апошні склад).**


Пірамідкі са спецый на рынку.

Ад часоў Савецкага Саюза з большасцю таджыкаў можна паразумецца па-руску. Многія таксама могуць чытаць і арабскую вязь – бо менавіта ёй напісаны Каран, свяшчэнная кніга мусульман.

Тое, што патрыярхальныя традыцыі вельмі моцныя, паказваць штодзённыя сітуацыі. Калі вы дзяўчына і падарожнічаеце з хлопцам, будзьце гатовыя, што вас ніхто не будзе заўважаць. «Эй, братан, куда тебя подвезти?» – запытаецца таксіст. «Лепёшки к супу подавать, брат?» – працягне афіцыянт. Пытацца і глядзець у размове будуць выключна на хлопца.

Аднак да жанчын славянскай ці, як гавораць самі таджыкі, «еўрапейскай» знешнасці, тут больш лаяльнае стаўленне. Калі дзяўчына з русымі валасамі будзе хадзіць у кароткай спадніцы ці купіць віно, на яе звернуць увагу, але прамаўчаць. Што зробіш – турыстка з Еўропы.

## Навучыцца танцаваць рукамі і таргавацца па-ўсходняму

Чаго не змогуць адразу зрабіць «еўрапейскія» дзяўчаты, дык гэта патанцаваць пад таджыкскую музыку. Тут трэба абавязкова браць майстар-клас у мясцовых дзяўчат. Танцуюць яны выключна верхняй паловай цела – плячамі, рукамі і вачыма. Пры гэтым рукі рухаюцца настолькі плаўна і мякка, што ад танцуючай таджычкі нельга адвесці вачэй.

Са старадаўніх часоў захаваліся традыцыі роспісу посуду – узорамі і арнаментамі сініх і зялёных адценняў. З яго таджыкі ядуць і цяпер, а для турыстаў мясцовая кераміка стала адным з самых папулярных сувеніраў. Чайны сервіз з піяламі можна набыць за 20 долараў.

Сурвэткі, абрусы і навалочкі з традыцыйнай ручной вышыўкай можна чытаць як кнігу, калі ведаць значэнні колераў і арнаменту. У кожным рэгіёне Таджыкістана яны будуць розныя. І кошт на іх будзе залежаць ад памеру вырабу і складанасці вышыўкі. Да прыкладу, навалочка на маленькую падушку абыдзецца ў 30 долараў.

Хусткі, цюбецейкі, халаты, шаравары – тое адзенне, дызайн якога мала змяніўся са старажытных часоў. Адзінае, што цяпер яго ўсё часцей робяць са штучнай тканіны.

Для турыстаў выбар адзення ўскладняецца яшчэ і тым, што яго традыцыйная яскравая каляровая гама цудоўна пасуе толькі да таджыкскіх цёмных валасоў і смуглай скуры. А вось да бледных славянскіх твараў і русых валасоў – ужо з нацяжкай.

Хустку можна набыць за тры долары, цэны на сукенкі і шаравары пачынаюцца ад пяці.

Пры пакупцы сувеніраў трэба не забываць, што знаходзішся на Усходзе: торг тут абавязковы. Гэта асобны від слоўнага мастацтва. Саромецца тут не трэба, бо варта памятаць, што для турыстаў прадаўцы часта называюць самыя высокія цэны.

Беларусаў у Таджыкістане любяць. Амаль у кожнага таджыка знойдзецца гісторыя аб тым, як дзед служыў пад Пінскам, сусед працаваў на «Гарызонце», а пляменнік цяпер па абмене вучыцца ў беларускай ВНУ.

Менавіта гэты кантраст збівае з панталыку, калі падарожнічаеш па Таджыкістане. З аднаго боку, мы абсалютна розныя, а з іншага – маем шмат агульнага. Каб адчуць гэты кантраст, варта хаця б раз змяніць традыцыйны маршрут адпачынку і замест Егіпта ці Адэсы накіравацца ў Цэнтральную Азію.


Тэкст і фота – Аляксандра ПАРАХНЯ
alesia.ptushka@gmail.com

## Беларускія спартсмены вернуць грошы за падрыхтоўку

У тым выпадку, калі яны будуць выступаць за замежныя зборныя.

Аляксандр Лукашэнка 9 верасня падпісаў Указ «Аб нацыянальных і зборных камандах Рэспублікі Беларусь па відах спорту». Дакумент накіраваны на сістэматызацыю і ўпарадкаванне работы па фарміраванні нацыянальных і зборных камандаў. У дадатак да дзеючых раней нормаў Указ замацаваў абавязак спартсменаў кампенсаваць выдаткі на іх падрыхтоўку ў выпадку сістэматычнага парушэння абавязкаў па ўдзелу ў спартыўных спаборніцтвах або выступленнях за нацыянальныя і зборныя каманды замежных дзяржаў.

**Паводле president.gov.by.**

● ХАКЕЙ

## Дынамаўцы занялі першае месца ў экстралізе

У суботу, 7 верасня, маладзечанскія хакеісты сустрэліся з салігорскім «Шахцёрам». Гэта была гульня за першае месца турнірнай табліцы экстралігі. Дынамаўцы дамінавалі на працягу ўсяго матча і перамаглі з лікам 4:1. Шайбы забілі **Кучкін**, **Лісічкін**, **Амбражэйчык**, **Зубрыцкі**. У каманды **Дзмітрыя Краўчанкі** чатыры перамогі і адно паражэнне ў сезоне.

**Аддзел інфармацыі.**

● ФУТБОЛ

## Нічыя «Маладзечна» ў Дзяржынску і іншыя вынікі футбольных матчаў

Маладзечанскія футбалісты заваявалі баявую нічыю ў Дзяржынску, а чысцінцы і ашмянцы ўзялі свае перамогі. А вось смаргонцы не ўзялі тры ачкі.

### «Андэрдог» 3:0 «Івацэвічы»

**Мікіта Мятліцкі** двойчы забіў галы (адзін з гульні, а другі з пенальці). А на 56-й хвіліне **Аляксандр Халадзінскі** зрабіў лік у гульні 3:0.

### «Арсенал» 2:2 «Маладзечна»

Маладзечанцы пачалі гульню з аўтагола гульца «Арсенала» **Дзмітрыя Стомаля**. **Дзмітры Асіпенка** зраўняў лік, але зялёна-белыя ў асобе **Корсака** забілі гол і зноў выйшлі наперад. У другім тайме **Вячаслаў Глеб** забіў і забяспечыў сваёй камандзе нічыю.

### «Ашмяны-БДУФК» 2:0 «Асіповічы»

«Ашмяны» далі па-радавацца заўзятарам толькі ў другім тайме. **Януш Ладуцька** і **Аляксандр Буры** забілі галы, якія падарылі камандзе чарговыя тры ачкі ў скарбонку.

### «Смаргонь» 0:0 «Ліда»

Смаргонцы не забілі ніводнага мяча на дамашнім полі ў абласным дэрбі з «Лідай». Смаргонская каманда зноў апусцілася на перадапошняе месца ў турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Ашмянах адкрыюць філіял акадэміі «Дынама-Брэст»

У Ашмянах прайшла афіцыйная сустрэча прадстаўнікоў футбольнага клуба «Дынама-Брэст» з кіраўніцтвам раёна, у ходзе якой было падпісанае пагадненне аб супрацоўніцтве і адкрыцці філіяла акадэміі «Дынама-Брэст».

Філіял адкрыюць у Ашмянах, яго назвалі «Паўночны Захад». Акадэмія будзе ахопліваць не толькі непасрэдна Ашмяны, а таксама Астравец, Смаргонь, Іўе і іншыя бліжэйшыя рэгіёны. Уся інфраструктура, неабходная для падрыхтоўкі футбалістаў, размешчаная вельмі кампактна і ўключае ў сябе месца для пражывання і харчавання дзяцей, агульнаадукацыйную школу, а таксама трэніровачны комплекс.

**Паводле dynamo-brest.by.**

● БАСКЕТБОЛ

## У Астраўцы адкрылі спецыялізаваную пляцоўку для баскетбола 3х3

У Астраўцы адкрылі першую спецыялізаваную пляцоўку для баскетбола 3х3 у Гродзенскай вобласці. Яе пабудавалі на базе гімназіі №1.

– Гэта першая спецыялізаваная пляцоўка для баскетбола 3х3 у Гродне. Тут пакладзенае ўнікальнае пакрыццё, абсталявана яна ўсім неабходным для трэніровачнага і гульнявога працэсу. Баскетбол 3х3 – перспектыўны від спорту, які нядаўна папоўніў алімпійскую сям'ю. У Гродзенскай вобласці багатыя баскетбольныя традыцыі. Упэўнены, што і гэты від гульні стане папулярным, – адзначыў начальнік упраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама **Алег Андрэйчык**.

**Паводле belta.by.**



Фотаздымкі забяспечаны Сяргеем ЛЕСЯКОМ.

Сяргей Лясяк з медалём і дыпломам спаборніцтваў у Грузіі.

# Срэбра ў Тбілісі

## Работнік МНС з Маладзечна заняў другое месца на турніры па самба

**У складзе зборнай каманды Беларусі ў катэгорыі да 100 кілаграмаў срэбраны медаль заваяваў майстар спорту Сяргей Лясяк. Прызёр турніру з'яўляецца прадстаўніком маладзечанскага пажарнага аварыйна-выратавальнага атраду Мінскага абласнога ўпраўлення МНС.**

Ад 6 да 9 верасня ў Тбілісі праходзіў міжнародны турнір па самба памяці Арчыла Чахелі. Турнір ужо стаў традыцыйным. Ён праводзіцца ў гонар грузінскага барца, які быў чэмпіёнам свету і Еўропы.

**Лясяк правёў тры схваткі: у дзвюх перамог, а ў фінале прайграў.**

У першай схватцы змагаўся з грузінскім барцом. Яго беларус перамог 3:1 і ў канцы зрабіў болевы прыём. У другой схватцы таксама перамог і змагаўся з грузінам (7:6). Дзякуючы гэтай перамозе Лясяк выйшаў у фінал.

У схватцы за залаты медаль Сяргей сустрэўся з чэмпіёнам Еўрапейскіх гульняў. Але ў фінальным паядынку беларус прайграў.

**– Нешта пайшло не так, не настроіўся. Пасля лета не прыйшоў у нармальную форму, каб змагацца на роўных.**

### Пачаў займацца спортам у Бабруйску

Па словах Сяргея, ён прыйшоў у спорт выпадкова і да гэтага мае дачыненне сястра. Лясяк родам з Бабруйска, яго сям'я жыла насупраць стадыёна «Спартак».

**Аднойчы бацькі папрасілі яго забраць сястру з дзіцячага садка. Ён праходзіў міма спартыўнага комплексу і вырашыў зазірнуць унутр. Адкрыў першыя дзверы, якія ўбачыў, – гэта была зала барацьбы.**

– Стаю і гляджу на трэніроўку хлопцаў.

**Праз некалькі хвілін да мяне падыходзіць трэнер, пацікавіўся, ці падабаецца мне тут. Потым запрасіў далучыцца. На наступны дзень я ўжо быў там.**

У 9 класе Сяргей паступіў у вучылішча алімпійскага рэзерву ў Наваполацку. Ужо там зрабіў большы акцэнт на спорт.




Узнагароды Сяргея Лесяка.

### Сёлета тройчы браў бронзавыя медалі

У лютым Сяргей выступаў на міжнародным турніры на прызы Лукашэнкі ў Мінску.

**За выхад у фінал прайграў гэтаму ж грузінскаму спартсмену, які перамог беларуса ў Тбілісі. Лясяк заняў трэцяе месца.**

У спісе значных выступленняў сёлета ў Сяргея былі спаборніцтвы на Кубку Масквы. У маі ён быў членам беларускай зборнай, якая выступала на чэмпіянаце Еўропе ў Іспаніі. Там Лясяк таксама выйграў бронзавы медаль.

**Самба – савецкі, а ў цяперашні час і міжнародны від спартыўнага адзінаборства, распрацаваны на аснове дзюдо.**



**Настасся УТКІНА**
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Нядобрасумленная, бюракратычная зацяжка з канчатковым вырашэннем справы.
4. Чалавек – адзіная істота, чые вочы выпрацоўваюць іх пад уздзеяннем эмоцый.
7. Назва гэтага населенага пункта ў Пастаўскім раёне паходзіць ад назвы ракі, якая перакладаецца як «птушыная рака».
8. Ацэтылсаліцылавая кіслата.
9. Буйны драпежнік сямейства кашэчых з плямістай шэрсцю.
12. Звязаны пучок галінак для паркі ў лазні, падмятання падлогі.
13. Група людзей, прызначаная ахоўваць.
14. Сярэдні каменны век, пераход ад старажытнага да новага каменнага веку.
17. Псіхааналітыкі заўважылі, што ў гэты перыяд года ў людзей зніжаецца пачуццё страху.
20. Самае вялікае сузор'е на начным небе, займае каля 3% ад бачнай прасторы над галавой.
21. Аб'ява аб спектаклі, канцэрце, лекцыі, якую вывешваюць на бачным месцы.
22. Паглыбленасць у свае думкі.
23. Публічны продаж, пры якім рэч набываецца тым, хто дае за яе найбольшую суму.
25. Натуральны падатак, які збіралі татары і руския звычайна дарагім футрам з карэнных жыхароў Сібіры.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Іспанскі пісьменнік Мігель дэ Сервантэс правёў у Алжыры пяць год, а вярнуўся толькі пасля выкупу. Хто прывёз пісьменніка ў Алжыр?
3. Збудаванне ў выглядзе раду ступенек для пад'ёму і спуску.
5. Рад аднолькавых металічных звенняў, паслядоўна злучаных адно з адным.
6. Адкрытая ўзброеная барацьба паміж дзяржавамі, народамі, плямёнамі або грамадскімі класамі.
7. Апарат для вызначэння месцазнаходжання аб'екта з дапамогай адбітых ад яго гукавых або электрамагнітных хваль.
10. Паўднёвае вечназялёнае пладовае цытрусавае дрэва з кіслым плодам.
11. Строгая вымова, рэзкая крытыка.
12. Сталовы прыбор у выглядзе ручкі з доўгімі зубамі.
15. Сукупнасць музычных інструментаў, што ўдзельнічаюць у выкананні музычнага твора; калектыў музыкантаў, якія сумесна выконваюць музычны твор.
16. Скасаванне шлюбу.
18. Частка тэксту або асобныя словы, літары ці іншыя знакі, напісаныя або надрукаваныя ў адну лінію.
19. Той, хто схільны да летуценнасці, да ідэалізацыі рэчаіснасці.
20. Рыгор Барадулін: «Ты – з дрэва часу кволая…».
24. Раменьчык са спражкай, які надзяваецца на шыю сабаку.



## Адказы на крыжаванку з №36

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Стогн. 5. Хімера. 6. Мазоль. 7. Нумізматыка. 8. Атэізм. 9. Гематаген. 10. Брэст. 12. Гольф. 13. Метыс. 16. Шэпт. 20. Лоша. 22. Атлас. 24. Страх.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Штурвал. 3. Стандарт. 4. Сігнал. 11. Статыстыка. 13. Мароз. 14. Маланка. 15. Шчыры. 16. Шыфон. 17. Гарэлка. 18. Жураўіны. 19. Спякота. 21. Шайка. 23. Більярд. 24. Саха.

● ГАРАСКОП на 13-19 ВЕРАСНЯ

**АВЕН.** Ваша суперсіла – мэтанакіраванасць. Мэту вы заўсёды бачыце добра. А вось спраўляцца з перашкодамі часам варта з найменшымі стратамі. Вы хочаце зрабіць усё аднолькава ідэальна, але так не бывае.

**ЦЯЛЕЦ.** Усім нам часам трэба аддацца фантазіям. Бо калі ва ўяўленні малюеш тое, чаго няма ў рэальнасці, адчуваеш сябе зусім па-іншаму. Паспрабуйце адчуць, чаго вы больш за ўсё хочаце. І пафантазіруйце, як будзе выглядаць ваша жыццё, калі гэта адбудзецца.

**БЛІЗНЯТЫ.** Ніхто не ўмее так бліскуча слухаць і падтрымліваць блізкіх, як вы. Усе знаёмыя ведаюць, што з вамі заўсёды прыемна бавіць час. Але і вам часам патрэбная падтрымка. Не бойцеся шчыра папрасіць, каб у няпростай сітуацыі блізкія былі побач.

**РАК.** Ніхто не разбіраецца ў пачуццях іншых лепш за вас. Так перажываць могуць толькі Ракі. Людзям падаецца, нібыта вы чытаеце іх думкі. З-за гэтага вы часам крыўдзіцеся на іх – чаму яны не разумеюць вас. Але ў многіх няма такой здольнасці.

**ЛЕЎ.** Выдатны перыяд, каб зрабіць справы, якія даўно патрабуюць вашай увагі. У вас добрыя шанцы з поспехам правесці дзелавыя перамовы. Магчыма, вы зможаце знайсці паразуменне з тым, з кім даўно не маглі дасягнуць кансэнсусу.

**ДЗЕВА.** Цяпер вы будзеце спрабаваць дасягнуць немагчымага. Таму лепш узяцца за справы, у якіх вы добра арыентуецеся. Не варта загружаць сябе і патрабаваць ад сябе немагчымага.

**ШАЛІ.** Гэта добры час, каб узважыць многія рэчы. Але падчас прыняцця рашэння ўзважвайце не толькі тое, што трэба, але і свае пачуцці. Бо гэта самае важнае і каштоўнае, што толькі можа быць у свеце.

**СКАРПІЁН.** Вам падаецца, што лёс завёў вас не на тую дарогу, і незразумела, як вярнуцца назад. Але да таго, што ёсць сёння, прывялі рашэнні, якія прымалі ўчора. Таму тыя рашэнні, якія вы прымеце сёння, прывядуць да дарогі, па якой вам давядзецца ісці заўтра.

**СТРАЛЕЦ.** Складаныя адносіны складана падтрымліваць. Але складанасці робяць жыццё больш яскравым, поўным і насычаным. Галоўнае, каб складанасці развівалі і вялі наперад. Так што не бойцеся, складана – значыць, цікава.

**КАЗЯРОГ.** Вас чакае перыяд павышанай працаздольнасці. Вы і так працуеце, нібы не ведаеце ні стомы, ні ляноты. Цяпер жа ваш узровень проста зашкальвае. Бярэцеся за ўсе хвасты – у вас дакладна атрымаецца справіцца з усім.

**ВАДАЛЕЙ.** Падумайце пра сваё здароўе. Пра сябе варта клапаціцца, таму што ніхто лепш не ведае, што вам трэба, акрамя вас саміх. Паслухайце свой арганізм і тое, што яму неабходна. Варта сябе часам і папесціць.

**РЫБЫ.** Ідэальны перыяд гарманічных адносінаў. Нічога не будзе вас клапаціць і нерваваць, усё будзе ісці гладка і прыемна. Радуйцеся, што цяпер усё лагодна і спакойна.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 4 | | | | | | 9 | |
| | 5 | 9 | | 3 | | 6 | | |
| | 8 | | | 9 | 7 | | | |
| | 2 | 7 | | | 6 | | | |
| 4 | | | 8 | 2 | 9 | | | |
| | 1 | 5 | | 4 | | | 6 | |
| 3 | | | | | 2 | | | 4 |
| | | | 3 | 5 | 8 | | | |
| 5 | | 8 | 1 | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY




## Чытайце праз тыдзень:

- Прыгажуня з Вілейкі працуе як фотамадэль, іграе на некалькіх музычных інструментах, вучыцца на артыстку. А яшчэ на афіцыйных імпрэзах з хлебам-соллю сустракае высокіх гасцей. У іх ліку – Румас і Лукашэнка.

## 14 верасня, субота

**Вецер:** заходні, 7-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +2°С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +22,1°С у 1995 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 21,2 мм у 1994 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Хавайся ад восеньскай дэпрэсіі з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)* *632122 (ведамасная падпіска).*

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы ставіцеся да аб'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі ў 1939 годзе?



**Аксана Вараб'ёва, загадчыца кадравага аддзела:**

– Станоўча. Не вельмі добра, калі наша Беларусь будзе падзеленая на дзве часткі. Вельмі добра, што мы ўз'ядналіся. Па два бакі барыкад знаходзіліся. Напрыклад, дачка жыла тут, а бацькі – у іншай краіне. У плане сям'і, аб'яднанне – гэта добра.



**Максім Каўзовіч, работнік:**

– Цяжка сказаць, што адбылося б, калі б частка Беларусі засталася ў Польшчы. Мая маці з Гродзеншчыны і кажа, што людзі, якія нарадзіліся там у 30-я, называюць сябе палякамі. Польшча за амаль 20 гадоў зрабіла тое, што Расія не зрабіла за 200 год. У нас жа ніхто сябе рускім не называе.



**Георгі Нацэвіч, шафёр:**

– На мяне аб'яднанне не паўплывала. Мне, у прынцыпе, усё роўна. Для мяне галоўнае, каб мір быў на зямлі. Мае бацькі распавядалі, што ў панскай Польшчы людзі жылі лепш, чым пры бальшавіках. Доўга тут аднаўляліся.



**Вікенці Сарока, музыкант:**

– Ведаю, што было б лепей, калі былі б у Польшчы. Вось была тут Польшча, хай бы яна і была.



**Мікалай Курыловіч, інжынер-механік:**

– Стаўлюся блага.



**Аляксандр Мядвецкі, пенсіянер:**

– На сучасную Беларусь гэта паўплывала вельмі добра. Я родам з Усходняй Беларусі, а ў Заходнюю прыехаў на працу ўжо пасля аб'яднання. Тут і застаўся, тут у мяне і сям'я з'явілася.



**Мікалай Іваноў, спецыяліст па рабоце з партнёрамі:**

– Я думаю, што гэта было б добра для беларусаў, калі б была іншая сістэма, не камуністычная.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№37 (1272) 13.08.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1474. Падпісана ў друк у 9.00 12.09.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.